УДК 88.2.6
ББК 84(4 Беи)
І 24

**Івашын В.**

І 24 Покліч памяці / Аўт. прадмова. У. Гніламёдаў. — Мн.: Харвест, 1998. — 144 с.

ISBN 985-433-208-Х.

У кнігу ўвайшлі вершы, напісаныя на працягу 1995 — 1997 гг. Сваім зместам яны звернуты да роднай зямлі, народнай памяці, духоўнага свету асобы, маральна-этычных і эстэтычных каштоўнасцей чалавечага жыцця.

ББК 84(4Беи)

ISBN 985-433-208-Х

© В. Івашын, 1998
© Прадмова. У. Гніламёдаў, 1998

Ул. Гіламёдаў

## ПРАЦЯГ ДЫЯЛОГУ

Як паэт, Васіль Івашын ужо добра вядомы па папярэдняму зборніку «Слова», які выйшаў у 1995 годзе і з'явіўся, без сумнення, адкрыццём, хоць і некалькі прыпозненым, новага імені ў паэзіі. Мы ўбачылі ў аўтары «Слова» песняра хараства навакольнай прыроды і духоўнага жыцця чалавека. Яго вершы прываблівалі задушэўнасцю інтанацыі, шчырасцю, тонкім лірызмам і нешматслоўнасцю. Гэтыя рысы сваёй паэтычнай творчасці ён, здаецца, захаваў і ў другой кнізе, якую вы, паважаны чытач, цяпер трымаеце ў руках. Перад вамі працяг дыялогу — далейшая гаворка пра тое, чым напоўнена душа паэта. «Хацеў бы я крылатым ветрам быць і ўсю зямлю праветрыць, асвяжыць», — прызнаецца ён. У кожным вершы ёсць нейкая грамадска значная думка, філасофская сентэнцыя, вобраз. Глыбокадумнасць, мудрасць жыццёвага вопыту суседнічаюць, а часта і спалучаюцца са здзіўленнем перад

гэтым шматаблічным светам, з амаль дзіцячай даверлівасцю.

Аўтар кнігі — прадстаўнік свайго часу, свайго пакалення. Яму ўласціва светлае, рамантычнае ўспрыманне рэчаіснасці з рэалістычным паглыбленнем у яе змест, услаўленне высокай духоўнасці чалавека з крытыкай, непрыняццем, адмаўленнем негатыўных, амаральных з'яў у жыцці грамадства.

Аўтару ёсць пра што расказаць, і гэта відаць па зборніку, дзе адлюстравалася перажытае, убачанае, адчутае. За плячыма — гара часу, і з гэтым трэба лічыцца:

Шкада... Вясны жыцця больш
не вярнуць,
Пагасла ўжо яго світанне...
І ўсё ж, як і раней, сады цвітуць
І ззяе залатое ранне.

Гэтая ісціна вартая таго, каб яе адкрываць зноў і зноў, кожны дзень.

## ПОКЛІЧ ПАМЯЦІ

Памяць неўгамонная мая,
Не першы раз цябе пытаю я,
Што ты зберагла, што захавала
У схованках сваіх трывала?

Маленства, маладосці цвет вясновы,
Жыцця святочныя абновы,
Людское шчасце, радасць, дабрыню,
Святло й цяпло сардэчнага агню.

І холад адгрымеўшых навальніц,
Агні маланак, праблескі зарніц;
І слёзы, гора, боль, пакуты,
І волі прагнай дух раскуты.

Нішто, нішто з былога не забыта,
Ацэнена, узважана, адбіта.
І ўсё цяпер яшчэ жыве са мной
Як покліч памяці маёй.

* * *

Ёсць дзіўная краса вясны і лета,
І восені ў пяшчотнай жаўцізне,
Лясной пралескі, сонцам абагрэтай,
І матылёчка, што ляціць ка мне.

Яна і ў вольным гомане лясоў,
Садоў, духмянай квеценню абнятых,
І ў звонкасці птушыных галасоў,
І ў кветніку ля тваёй хаты...

І свеціцца яна ў бязмернай вышыні
Шляхоў-дарог у далячынь адкрытых;
Ў раскатах грому, яснай цішыні,
Зарой вячэрняй апавітай.

І ёсць краса тваёй адроджанай зямлі,
Яе духоўных скарбаў, запаветаў,
Ўсяго таго,што продкі зберaглі
Ў душы народа, песнямі сагрэтай.

І ёсць краса вялікага прызвання,
Бацькоўскай праўды векавой,
Свабоды чалавечай парывання,
Што ў лучнасці жыве з табой.

Ўмясці ў сабе ты гэта красаванне,
Ягоных фарбаў залаты разліў!
Іх хараства жывое палыханне,
Адчуй ў сваёй душы яго прыліў!

## РАДЗІМЕ

Ў ціхай задуме палі і лугі
І сонца ў высокім блакіце.
Радзімы мой край, як вясна дарагі,
Любоў мая, маці-зямліца!

О, колькі ты зведала горкіх часін,
Нядоляй за волю плаціла!
Хто толькі світанняў тваіх не гасіў,
Ды ўсё ж не пагасла іх сіла!

Ўсё ты змагла і сябе зберагла,
Ўсе скарбы народу адкрыла,
Яго да свабоды з сабою вяла,
Любоў мне сваю падарыла.

І верыцца: лёс твой, як свет малады,
Нястомная маці-зямліца.
Глядзі: як прыгожа сады зацвілі!
Як сонца шугае ў зеніце!

## СПАДЧЫНА

Хіба магу я страціць усё тое,
Чаго ніколі больш мне не вярнуць:
Ўсё крэўнае, бацькоўскае, святое,
Адкуль дарогі ў свет мяне вядуць.

З маленства ад народа я пазнаў
Зямлі маёй адвечную красу;
Як родную душой яе прыняў,
Расціў і праз гады ў жыццё нясу.

І гэта спадчына жыве са мной,
З яе нязгасным у вяках святлом,
Як зерне з нівай шчодрай веснавой,
Сагрэтай мілым сонечным цяплом.

Яе як дар, як шчасце берагу,
Парывы свайго сэрца аддаю,
І іх ніколі страціць не змагу,
А з імі — веру светлую маю.

## НЕЗАБЫЎНАЕ

Ў жыцці заўжды чагосьці не хапае,
І штосьці ўжо забыта, страчана.
Але ж ёсць яшчэ і што душа хавае,
Што для любві й дабра прызначана.

З чым я жыву, з чым разам і святкую,
Што мне для радасці адкрыта;
І чым я даражу, чаму смуткую —
Ўсё ў думках-марах не забыта.

Ўсё гэта ў памяці жыве са мной,
Ўсё роднае з маім жыццём яднае.
І кожны раз са шчодрасцю сваёй
Маленства мне маё вяртае.

* * *

Са мной жыве мая свабода,
Паходня верная ў жыцці.
Іду я з ёю да народа
І ў заўтра з ёю буду йсці.

Яна – маёй душы свячэнне.
Яе я сэрцам узрасціў,
Як першароднае дарэнне
Народнай праўдай ахрысціў.

Я з ёю шлях свой выбіраю,
Што мне дараваны жыццём,
Сябе самога вывяраю
Свабоды верным пачуццём.

* * *

Ты, сэрца, вучылася любіць,
Ўбіраючы людское гора.
Калі табе баліць — і мне баліць,
Тады й мяне туга агорне.

Ты ўсюды ставіла заслоны злу,
Людское шчасце азарала,
Дабру аддаючы сваю хвалу,
Яго ты гожасць зберагала.

Мяне ты навучыла адчуваць
Красу сучаснага й былога,
Ёю даражыць і пазнаваць
Чароўнасць матчынага слова.

Твая любоў адкрыла цэлы свет,
Аздобіла яго, амаладзіла.
Яе ўсечалавечы запавет
Навек ты людзям падарыла.

* * *

Ўсё ўсплывае ў памяці маёй,
Каб зноў нанова адрадзіцца.
Даю волю неспакойнай ёй
Святлом мінулым азарыцца;

З вышынь гадоў прыняць багацце
Айчыннай скарбніцы вякоў,
Дзе прашчур пачынаў змагацца
За волю й веру без акоў.

Там рэялі сцягі Пагоні,
Збіраючы свабоды раць.
Там волі засявалі гоні,
Каб нам самім сабою стаць.

Іду сюды, у храм Айчыны,
Народнай славы векавой,
Каб да апошняе хвіліны,
Мая Радзіма, быць з табой.

Тваім святыням пакланіцца,
Што нашы продкі зберaглі,
І з імі сэрцам парадніцца
На шчасце роднае зямлі.

* * *

Я йду да цябе з песняй любімай,
Якую народ табе падарыў;
І з казкай-марай надзіва праўдзівай,
Якую з песняй на памяць стварыў.

З купальскай кветкай — красуняй чароўнай,
Гадальніцай шчасця і долі людзей,
Дзе свецяцца, ззяюць агнём цудоўным
Таемныя сілы світальных надзей.

Вазьмі ты гэты агонь назаўсёды
Як светач надзеі і веры людской,
Як пакліч душы, як сімвал свабоды,
Як памяць Радзімы, тваёй і маёй.

## ЯНКА КУПАЛА

Заўсёды жывеш ты са мною,
Як светлая радасць мая.
Я сэрцам твой свет адкрываю,
Яго даляглядьі й прасцягі,
Вышыні і дзіўныя мроі
Красы чараўнічай тваёй.
І бачацца мне яе ўсходы:
Любімай Айчыны прасторы,
Зара Маладой Беларусі,
Што смела ў сонцы да волі,
На свой пасад чалавечы
Сям'ёй сакалінай ідзе.
А там і чароўныя далі:
Зарніцы купальскага свята,
Дзе папараць-кветка цвіце,
Палаюць твае агняцветы...
І чуецца слова прарока.
І лірніка струны звіняць...
Як зорыцца вечнае неба тваё,
Як свеціцца сонца тваё, Купала!

## ПАЭЗІЯ

Паэзія — і не гаданне,
І не дзіцячая гульня.
Яна — наказ жыцця, прызванне
Твайго нястомленага «я».

Яна — агонь, душы гарэнне,
Абсяг святла і дабрыні,
Свабоды прагнай вымярэнне
На палымнеючым агні.

Яна — твой боль, твае пакуты
За шчасце роднае зямлі.
Яна —здымае злыдняў путы,
Што чалавека апялі.

Яна — святое азарэнне
Таго, што выстаяў народ...
Яна — тваёй душы тварэнне,
Народнай праўды смелы ўзлёт.

2 Зак. 1192

* * *

Калі табе даравана натхненне,
Агню таго святога не гасі!
Няхай гарыць ён кожнае імгненне,
Праз боль, пакуты ты яго нясі!

Няхай ім свеціцца твая душа,
Адкрытая ўсім дарогам свету.
Твары, паэт, красу жыцця ўзвышай!
Будзь верны праўды запавету!

## ТВОЙ ТВОР

*Анатолю Вярцінскаму*

Твой твор — шырокі ўзмах пяра,
Тваёй душы — самааддача.
У ім заўжды шукаю я
Таго, што сам у свеце значу.

Іду з ім шляхам адкрыцця
У край паэзіі вячыстай,
Дзе Чалавечы знак быцця
Жыве у песні прамяністай.

* * *

Што жыццём спрадвек завецца,
На ўсё песня адгукнецца.
На ўсё матчына, святое,
Што з маленства дарагое,
Што жыве, не адцвітае,
У маёй памяці вітае.
Што народ здаўна вартуе,
Бласлаўляе і шануе.
Што Радзімы знак хавае,
Яе долю услаўляе.
На знаходкі і на страты,
На свет розны і багаты.
І на гора, і на шчасце,
І на розныя напасці.
На ўсе ўдачы і няўдачы,
Спеў салоўкі, плач дзіцячы,
Крык зняможаны старэчы,
На кожны голас чалавечы.

* * *

Мы сеем, і сеем, і сеем
З адвечнай бацькоўскай сяўні
Адменнае зерне-насенне —
Даніну — з народных данін.

Хай засеў расце і дужэе,
Залоціць Радзімы палі!
Хай ніва жыцця прыгажэе
І поўняцца скарбы зямлі!

Ўсе вольныя ў свеце пасевы
І нам, беларусам, зрадні.
Мы сеем, і сеем, і сеем
Свабоду з патомнай сяўні.

* * *

Я ўдзячны ветру вольнаму,
Дню яснаму, пагоднаму,
Дажджу цёпламу, спагаднаму,
Полю жытняму, раздольнаму,
Зерню буйнаму, жыццятворнаму,
Што на ніву з сонцам просіцца,
Што пасеецца й народзіцца,
І зноўку вырасце, аплодніцца,
І ўзрадуе душы шчодрасцю,
Непаўторнай сваёй гожасцю.

# ПРЫЦЯГНЕННЕ РОДНАЕ ЗЯМЛІ

Адны хацелі б павярнуць мяне на Захад,
Другія — не інакш як толькі на Усход.
Ўсе выгоды, перавагі мне даводзяць,
Маю свабоду абяцаюць зберагчы.
А ці спыталі вы пра лёс мой у мяне,
Ці ведаеце, чым жыве душа мая,
Што выбрала яна, і што сама ўхваліла:
Задаўненую аднаколернасць жыцця
Ці шматфарбныя акрасы-віды свету?
Любуюся штодзённа я Усходам
І барвы Захаду так да спадобы мне.
І кожны раз я сэрцам адчуваю
Ўсю сілу прыцягнення роднае зямлі.

* * *

Як часта ў свеце я бываю,
Планету ў думках сузіраю,
Далёкія мясціны аглядаю,
Ўсё, што люба мне, вітаю,
Але спакою там не маю.
І на Радзіму зноў спяшаю,
Яе нанова адкрываю,
Знаходжу ўсё, што спавядаю,
Пра што з народам сваім дбаю,
Чаму нязменна прысягаю
І тут душою спачываю.

* * *

Калі надыдзе расставанне,
Пагасне дзень, настане ноч,
Дазволь мне, Божа, хоць бы раз
Яшчэ на сонца паглядзець,
Убачыць зноў маю Радзіму,
Прыпасці да жытнёвых ніў,
Крыніц, азёр, лугоў духмяных,
Лясоў бяскрайніх, векавых
І ўсё, што не паспеў, аддаць ім.
І ўпэўніцца, што абагрэта
Святлом жаданае свабоды
Багаслвёная мая зямля.

* * *

Ёсць адзін закон спрадвечны,
Незабыўны, чалавечны:
Душой з Радзімай быць і жыць,
І ёй, як шчасцем, даражыць.

Яе святыні, іхні лёс,
Што праз гады народ пранёс,
Як скарб бацькоўства зберажы,
Будзь з імі нават на крыжы!

І мову — гэты дар святы,
Прамень свабоды залаты —
Пяшчотна ў сэрцы захавай,
Нашчадкам з верай перадай!

* * *

Газеты пішуць: я чытаю
І шмат слязінак заўважаю...
Спрадвеку моўчкі мы стагналі,
Ўсё бедавалі, гаравалі;
Пакорна гнуліся, маўчалі;
Чаго мы толькі ні спазналі,
Ніяк дабра не прычакалі,
Імя пакутніка прыдбалі.
І сталі самі мы не самі,
Усе — з чужымі галасамі.

* * *

Дзіўны сон я бачыў...
Штосьці ён хавае:
Нібы маці плача,
Ўсіх сыноў склікае,
Тых, хто памяць страціў,
З жалем дакарае.
Быццам бы жар-птушка
Да мяне крыляе,
А ў бары зязюлька
Нешта мне гадае.
Што магло прысніцца
Так неспадзявана...
Як не надзівіцца
На світанку рана.
У каго дазнацца,
Што сон гэты значыць?
У каго спытацца,
Як яго тлумачыць?
Мо спытаць у зоркі,
Што яшчэ свяціла,
Ці ў той жа сойкі,
Што мяне будзіла?
Ці мо у зязюлі,
Што закукавала,

Ці, можа, ў матулі,
Што засумавала?
Як адкрыў я вочы,
Ўсё, што сніў, і страціў...
Што сон напрарочыў,
Пажывём — пабачым...

* * *

Я мог бы дараваць усё твае грахі...
Грахоў жа у цябе замнога...
Ды толькі вось адзін твой грэх
На сэрца лёг, як боль-трывога.

Сярод сваіх ты чужаком жывеш,
Адрокся ад сваёй Айчыны,
Нічога роднага ў душы ты не збярог,
Апроч уласнае хаціны.

І мову матчыну ты занядбаў,
Даўно забыў яе гучанне.
Сыноўства ад народа не прыняў —
Няма табе за гэта даравання.

* * *

Ты кажаш мне: душа старэе,
Што ўжо няма ранейшага агню,
І больш яна нікога не сагрэе
Пасля таго, як час цябе прыгнуў.

Будзь цвёрды духам, не губляй надзеі,
Астатняга не пагасі агню;
І не зважай, што валасы радзеюць,
З гадамі засяваюць сівізну.

Ты, брат, дасюль не ўсё на свеце зведаў,
Не ўсімі сцежкамі прайшоў,
Не ўсё спасціг, не ўсё адведаў,
Не ўсё, чаго шукаў, знайшоў.

Я веру: ты яшчэ расправіш крылы,
Адчуеш моц і прагу вышыні...
Для Бацькаўшчыны зберажы ты сілы
Ў астатнія спагадлівыя дні.

* * *

Не трэба для душы ніякіх лекаў,
Апроч даўно вядомых тых,
Што лечаць з веку і да веку
Ўсіх — старых і маладых.

Яны ад памятных святынь народных,
Любові да Радзімы дарагой,
Крыніц гаючых жыццяродных,
Што ў памяці жывуць з табой.

Яны ад квецені палёў вясновых,
Ад іхняга святла і цеплыні,
Ад песень любых, адмысловых
Прыветнай чалавечай дабрыні.

Яны ад радасці жыцця і сонца
З яго спрадвечнаю сяўнёй;
Ад шчырага, даверлівага слоўца,
Што песціцца ў душы тваёй.

* * *

Як часта мы міфы стваралі
Падманнага шчасця свайго.
Міражныя далі хавалі
Світанкі абрысаў яго.

Эдэмы свае будавалі
На славу наступных вякоў.
Там Змія свайго пасялялі
І новых прыблудных багоў.

І верылі ў шчасце без краю,
Нарэшце, дазнацца змаглі:
Нідзе няма вечнага раю
Ні там і ні тут, на зямлі.

* * *

Гісторыя,
Цябе не раз перапісалі
За многія мінулыя гады...
Ўсе квецені сцягоў, што красавалі,
Пажоўклымі марнелі ад бяды.

І так было на кожным павароце,
Дабро перапраналася у зло.
Што спеўна гасцявала ў пазалоце,
Азмрочаным ішло на злом.

Ўсё пад сілу чалавечай волі,
Ўсё можна скасаваць, спісаць,
Ды толькі немагчыма анікалі
Само жыццё перапісаць.

* * *

Як часта крайнасці мы бласлаўлялі,
Ад адной траплялі да другой.
Чаму раней навечна прысягалі,
Таму пазней давалі бой.

І верх, і ніз мы месцамі мянялі
У поступе ад змроку да святла,
Так полюсы жыцця перамяшчалі,
Што ўсё наўкол змянялася датла.

Нібыта ўсюды да вяршынь сягалі,
Старое ахвяруючы на злом.
За праўду зло даверліва прымалі
І часта за дабро плацілі злом.

Палярнасці наступнасць засланялі,
Святлом ілюзій засцілалі шлях.
І што ж! Знайшлі мы ўсё, чаго шукалі?!
Надзей і спадзяванняў поўны крах.

* * *

Ці мала слёз праліта на зямлі?
Ці мала гора выслезілі людзі?
Прамоклыя слязьмі яс палі,
Парансны вайною яс грудзі.

Наўкол магілы, помнікі бяды
Чарнобыля, Хатыняў, Курапатаў —
Усіх загінуўшых крывавыя сляды, —
У час бязлітасны навек пракляты.

О, людзі, людзі!
Ці не час дабрэць?
Пакуты, стогны астудзілі й неба.
Каб хоць адну слязінку абагрэць,
О, колькі цеплыні сардэчнай трэба!

* * *

Іду на Свята Перамогі
Праз паўстагоддзе з тоіі вайны...
Ў памяці салдацкія дарогі
Акопнаіі праўды і віны.
Знікаюць і ўзнікаюць успаміны
Пра гул гармат на рубяжы,
Шаленствы юнкерсаў, разрывы мінаў,
Баі, атакі, смерць, крыжы...
І новыя ўсплываюць успаміны
Пра жахі вогненных гадоў,
Знявечаных, загубленых Хатыняў,
Апаленых вайною гарадоў,
Пакінутых сірот і ўдоў,
Разбітых чалавечых шчасцяў,
Ніколі ненароджаных дзяцей,
І ўсіх ле бядот-пракляццяў,
Навалсных пачварна на людзей.
Якой цаной, адвагай, воляй
І мужнай сілаю сваёй
Узняў народ — герой і воін —
Сцяг перамогі над зямлёй!
Грымяць святочныя салюты,
Вітаючы ўрачысты час.
Праз боль, праз гора і пакуты

Свабода крочыла да нас.
Іду са святам на спатканне
Каторы раз я праз гады...
Калі ж настане час братання
І знікнуць войны назаўжды?

* * *

Ты кажаш мне:
Свет зменіцца
І час настане
Шчаслівасці людской.
І будзе мір
І будзе свята
Любові,
Веры,
Дабрыні.
І мой нашчадак,
І будучы яго нашчадак
Спазнае гэта шчасце,
І знікнуць
Войны на зямлі.
Але ці чуеш:
Ўсё яшчэ страляюць,
Грукаюць гарматы,
І дзеці плачуць,
І маці лічыць,
Недалічыцца сваіх сыноў.

* * *

На схіле веку здані-цені
Зацьмілі зорны далягляд:
Надзсі сонечнай праменні
І веры стомлены пагляд.

Бязладдзе душы ачарніла,
Распяты права і закон.
Балюе скрозь благая сіла...
Пяройдзен праўды рубікон.

Зусюль гучаць званы трывогі
І клічуць людскасць бараніць,
Адкрыць да праўды ўсе дарогі
І з ёю святасць парадніць.

Калі ж настане час збавення
Ад гэтай крыўднай чарнаты,
І зноў надыдзе прасвятленне,
Заззяе сонца дабраты;

І знікне дзесьці ў аддаленні
Зласлівасці здзічэлы зброд?
І хоць яшчэ снуюцца цені,
На небе свеціцца усход.

* * *

Як многа зла ў жыцці аквечана,
Аздоблена, асалоджана,
Пячаццю праўды засведчана
І так старанна ўпрыгожана.

Нібы для шчасця ўсё прысвечана
І для дабра таго народнага,
І для ўзвышэння чалавечага,
Святога ў ім, высакароднага.

Але падманам што азмрочана,
Агнём хвалебнасці апалена
Не будзе любасцю аплачана
І ёй ніколі не ўслаўлена.

* * *

Дзе каранована махлярства,
Ўсё ў цане, ўсё прадаецца:
І хлеб, і праца, і пяшчоты,
І нават талент і сумленне,
Ўсё дазволена й магчыма.

Ды толькі, пэўна, немагчыма
І не купіць, і не прадаць
Таго, чаго пакуль няма,
Што некалі шчэ будзе.
Будучнасць не прадаецца.

* * *

Кажуць: рынак — гэта шчасце...
Пойдзе ўсё цяпер да ладу...
Толькі як умерыць страсці
Ад такога маскараду?

На законы і дэкрэты,
Як заўсёды, нам шанцуе...
Толькі сэрца не сагрэта,
Толькі сэрца ўсё гаруе.

Так ўсё гожа, так свабодна...
Не было такога зроду...
Дык чаму ж душы народнай
Не хапае кіслароду?

## «ТОЛЬКІ ГЭТАГА НЕ ХАПАЛА...»

Калі гора каго напаткала,
Ці то крыўда якая прыстала,
Тады, помню, маці казала:
«Толькі гэтага не хапала».
І колькі раз у жыцці бывала:
«Толькі гэтага не хапала»:
Ці то хлеба здаўна, ці свабоды,
Ці то праўды, дабра для народа,
Ці то грошы наўздзіў патанелі
І катэджы паўсюль зараслі,
Ці то цэны ўгару паскакалі
І каровы назло зарыкалі.
Тады маці ізноў казала:
«Толькі гэтага не хапала»...

* * *

Мы ўсе прайшлі праз буры, навальніцы,
Праз сонечны прасцяг і цемру ночы.
На ўсіх шляхах свяцілі нам зарніцы
І жахі цемры асляплялі вочы.

Мы сцяг свабоды неслі праз гады.
Свяцілі ёй і розум, і сумленне...
Віталі шчыра яе поступ маладым
І пракліналі яе паланенне.

Хацелі шчасцем адарыць усіх людзей,
Да сонца павярнуць усю планету;
Танулі ў марах зачараваных ідэй,
Задум міражных, ў золата адзетых.

Жадалі памятку пакінуць назаўжды,
Пераступіць усе ў жыцці парогі...
Але губляўся след... Ішлі гады
Знямог, расчараванасці, трывогі.

І змоўкла слава-мара тых гадоў,
Зацемнены сузор'і даўняй веры,
Памеркла золата адрынутых сцягоў
Прывабнай летуценнай меры.

Нішто не паўтараецца на свеце...
І ўсё ж агонь тае рамантыкі не згас.
Нашчадак, пэўна, нешта і прывеціць
З таго, што створана людзьмі ў той час?

* * *

Трывожны час пераўтварэнняў,
Ўсё новых пошукаў, падзей,
Пераацэнак, адмаўленняў,
Змяніў ты твар жыцця й людзей.

Адны — так хутка палявелі,
На шлях свабоды узышлі.
Другія — раптам папраўлелі,
Сябе ў манархіі знайшлі.

Адны — збавіцелямі сталі,
Да дэмакратаў дараслі...
Другім — штоночы сніцца Сталін
Ў сваім салдацкім шынялі.

О, час! Раскіданых камення ў,
Няпэўных, страчаных надзей,
Перабудоваў, адхіленняў,
Куды ты нас з сабой вядзеш?

* * *

Пытанні... Вечныя пытанні...
І колькі іх і дзе адказ?
Ідзём мы з лёсам на спатканне
Не першы, не апошні раз.
І зноў закляцці, абяцанні,
Напевы новых вестуноў,
І іх прысягі, і прызванні
На строме ўзрушаных гадоў.
Айчына, дзе твае прарокі?
Хто зноў пакліча мой народ?
Я чую будучыні крокі...
І скрозь бяздродныя аблокі,
Такі і блізкі, і далёкі
Праменніца надзеі ўсход.
Даносяцца Пагоні клічы,
І ў сне лунае чараўнічы
Купалаўскі Вялікі Сход...

* * *

Хацеў бы я крылатым ветрам быць
І ўсю зямлю праветрыць, асвяжыць,
Развеяць ўсе застылыя туманы,
Віхураў надакучлівыя зманы
І змесці хмар навіслыя аблогі —
Ўсё, што скрозь азмрочыла дарогі
І сонца чалавеку засланіла,
І свет яго жыцця ахаладзіла.

4 Зак. 1192

* * *

Мы ў дарозе, ўсе ў дарозе,
У вечным пошуку й знямозе
З векам прагных захапленняў
І агорклых зазямленняў,
Чыстых, светлых азарэнняў
І шматхмарных зацямненняў,
Смелых думак, парыванняў
І няспраўджаных жаданняў...
З праўдай-ісцінай спатканняў
І трывог, расчараванняў.
Мы ў дарозе, ўсе ў дарозе,
У вечным пошуку й знямозе
Да апошняга ганца,
А дарога без канца.

* * *

Насустрач будучаму йдзём,
Працяг жыцця яму перадаём.
Ўсё, што створана і значыма,
Наступнаму прызначана.
Ды ці прадоўжыцца у ім наш шлях,
Ці ўздымецца паходняў нашых сцяг?
І ці захочацца яму прыняць,
З сабою назаўжды ў дарогу ўзяць
Ўсе нашы клопаты, задумы, мары,
Трывог, часін грымотных хмары?
Што яўна ўхваліць, рыме, адбярэ
І што асудзіць, зганіць, пракляне —
Ніхто ніколі нам не скажа.
Жыццё само на ўсё адкажа.

## ШЧАСЦЕ

Ты, шчасце, заблудзілася ў вяках,
З даўных-даўна цябе шукаюць.
Як часта ценю твайго гмах
За шчасце з горычу прымаюць.

Ты позністся заўсёды, як назло...
Далёкія твае дарогі...
Дагэтуль заглянуць ты не змагло
Да тых, хто зваў цябе да змогі.

Ў казках мой народ цябе шукаў,
Ў песнях высніў са слязою,
На долю сваю наракаў,
Праклінаў сваю нядолю.

Спрадвеку з горам ты дзяліла час,
Жар-птушкаю у снах лунала,
Ўсё набліжалася і кожны раз
Надоўга некуды знікала.

І дзе цябе шукаць і як знайсці,
Калі на свеце гора многа?
О, як цяжка праз яго дайсці
Да шчодрага твайго парога.

Да шчасця, мусіць, векавечна йсці,
Як да сонца, як да Бога...
І доўжыцца, і доўжыцца ў жыцці
Яго бясконцая дарога.

## МАЯ ВЕРА

Я веру ў сонца, ў яго ласку,
Ў Радзіму, яе зорны час,
У ажыццёўленую казку
За ўсё жыццё людзьмі хоць раз.

Я веру ў вечны дух тварэння,
У дзейснасць спраўджаных надзей,
Ва ўсё, што прагне адраджэння
І не схіляецца ў бядзе.

Ва ўсе маёй душы замеры,
У святасць яе мар і дзей,
Ва ўсё, што варта чалавечай меры,
Дабра, сардэчнасці людзей.

Ва ўсё, што ў будучнасць глядзіцца,
Світае, свеціцца зарой
І можа ў вёснах адрадзіцца
І стаць планідай дарагой.

Здымаю я заслон бязвер'я
З таго, хто хоча ў волі жыць...
Няхай мая мне вера верне
Усё, чым сэрца даражыць!

## ВЫПРАБАВАННЕ

Ці заслужыў ты годнасць чалавека,
Ці носіш чалавечае ў сабе?
Пытанне гэтае спрадвеку
Пастаўлена жыццём табе.

І кожны дзень, кожную хвіліну
Павінен на яго ты адказаць,
І кожны раз сваю даніну
Людское годнасці аддаць.

І так заўсёды, як прызванне,
Як споведзь сэрца, з веку ў век
Праходзіш ты выпрабаванне
На годнасць чалавека, чалавек.

## ЧАЛАВЕКУ

Адкрыў ты свету таямніцы,
Загадкі і планет, і зор,
Жыцця бязмежныя крыніцы,
Вяршыні беласнежных гор.

Багатварыў сабой прыроду,
Святлом яе ты асвяціў,
Узняў пласты зямной пароды,
Ўсё сваім імем ахрысціў.

Усё назваў, усё аквеціў:
Сады, лясы, даліны рэк.
Ва ўсім, што створана на свеце,
Тваё аблічча, Чалавек!

Бязмерны крылы тваёй веры!
Бязмежны свет тваіх надзей!
Тваім здзяйсненням няма меры,
Але ніхто ты без людзей?!

## ВЕЧНАЕ ПЫТАННЕ

Ты хочаш у жыцці пазнаць
Ўсе яго жывыя таямніцы,
Ды перш чым гэта разгадаць,
Пазнай сваю душу-зарніцу.

Спасцігні яе зорны свет,
Яго абсягі і шыроты,
Высокіх дум адбіты след,
Крылатай мары ўздымы, ўзлёты.

Адчуй трывогі і маленні,
Усплёскі гневу, дабрыні,
Яе лятункі-азарэнні,
Яе нязгаслыя агні.

Пазнай яе святы наказ,
Яе сумненні і прызванні...
І знойдзеш ты тады адказ
На гэта вечнае пытанне.

* * *

Таемнасці, загадкі векавыя,
Што вы хаваеце ў сховішчах сваіх?
Якую навізну нясеце свету?
Чым можаце парадаваць,
Здзівіць, зачараваць?
Якую зноў нязведанасць адкрыеце
На схіле веку?
Паспрабуй разгадаць, дазнацца,
Што месціцца ў глыбінях вашых:
Чарнобыльскай бяды гасцінец
Ці долі чалавечай зорны час?
Жыццё спрадвек дзівосамі спавіта,
Яно заўсёды невядомасць тоіць
І часам задае такія нам загадкі,
Якія праз вякі
Не разгадаць.

* * *

Жыццё і смерць жывуць у згодзе,
Спрадвечна адмаўляючы яе.
Пануе лад ва ўсёй прыродзе,
Сам адчужаючы сябе.

У гэтым вечным сутыкненні
Дзвюх сіл спрадвечнага быцця
Смерць адступае, гне калені
Перад магутнасцю жыцця.

* * *

Час дае і забірае
І ўсё ж нешта зноў вяртае
І нанова адкрывае,
І на памяць пакідае;
Ўсё сабою абдымае,
Каляндар жыцця лістае.
Час звароту, час вяртання,
Час пасеву і ўзрастання,
Красавання, выспявання,
Апладнення, адарэння,
Услаўлення, адмаўлення,
Узнаўлення, абнаўлення,
Вечнай прагі адраджэння.
Ўсяму свой час,
Сваё свячэнне.

## ЎСЁ НАСТУПНАМУ НАЛЕЖЫЦЬ

Ўсе людскія заваёвы
І ўсе пошукі, абновы,
Што расце і расцвітае,
Што праменіцца і ззяе,
Што у руху і палёце,
Абнаўленні і звароце,
Што у стане адкрыцця
І не хоча забыцця,
Што трывала і з'яднана,
З праўдай веку паяднана,
Ад яе святла залежыць —
Ўсё наступнаму належыць.
Ўсё ў сабе яго хавае,
Адраджае, благаслаўляе;
З ім і застаецца жыць,
Каб зноў жыццё амаладзіць.

* * *

Хаця сплывае беззваротна час,
Вярнуць нічога немагчыма,
Мінулае заўжды глядзіць на нас
Сваімі пільнымі вачыма.

Яно, як памяць, застаецца жыць,
А не знікае безнадзейна;
Маленствам незабыўна даражыць,
Наступству служыць дабрадзейна.

Трымае моцна на сваіх плячах
Яго бясконцыя абновы.
І доўжыцца вякоў далёкі шлях
Паўсюдна і былы, і новы.

Мінулае пры нас, яно з усім,
Што час для будучыні родзіць...
Мінулае з табой жыве ва ўсім,
Па ўсіх тваіх дарогах ходзіць.

* * *

Ўсё змяняецца, праходзіць, адыходзіць,
Ды толькі вечны рух жыцця.
І кожны міг у свеце нешта родзіць
І нешта вызваляе з небыцця.

Змяняецца ў красе сваёй прырода,
Рыхтуючы свой цвет у небыццё,
Зазнаўшы смак з таго ж жывога плода,
З якога нараджаецца жыццё.

І ты спрадвек таму ж закону верны,
Праходзіш шлях свой з года ў год,
Каб кожны раз жыццём сваім адменным
Прадоўжыць чалавечы род.

* * *

Не ўсё ў жыцці так лёгка разгадаць,
Яно свае кантрасты родзіць.
Вясна з зімой не хочуць сябраваць,
А ўсё ж адной дарогай ходзяць.

Ва ўсім мінулае спрабуе жыць,
Сучаснасць будучыняй бродзіць.
Зара раніцы на захадзе гарыць,
А сонца ўсходзіць і заходзіць.

Згадаю раніцу жыцця сваю
І бачу — вечар надыходзіць.
І гэта ўсё гняце душу маю,
На сэрца нудны сум наводзіць.

5 Зак. 1192

* * *

Нішто не вечнае на свеце...
У кожнага жыцця свой лёс.
Зрывае гнеўна буйны вецер
Апошнія лісты з бяроз.

Гібее ў полі адзінокі,
Забыты спелы каласок.
І тут жа стыне сінявокі
Засохлы, кволы васілёк.

На ўсім ляжаць тугі адзнакі,
Трывогі нудныя сляды...
І ўсё ж з вясной красуюць макі,
Цвітуць вішнёвыя сады.

І нікнуць недзе ў аддаленні
Тужліва-ўзрушаныя дні.
Яшчэ не страчана натхненне,
Яшчэ ў душы гараць агні!

* * *

Святло заўсёды пакідае цень...
Ўсе водсветы нядоўгавечны.
І кожны ззяючы яго прамень
Ужо зацэнены спрадвечна.

Як многа летуценных ззянняў
Кудысьці праглынула цемната...
А колькі дзіўных красаванняў
Бясследна засланіла чарната.

Ад іх, як памяць, — толькі міражы,
Пагасла назаўсёды іх бліскание...
І толькі у Хрыста, што на крыжы,
Дасюль нязгасна палыхае ззянне.

* * *

З маленства,
Ад першага вымаўленага слова,
Ад песень, казак роднага народа
Я ўсё жыццё сябе шукаю,
Сваю прысутнасць спасцігаю
На ўсіх не пройдзеных яшчэ дарогах
І будучых спатканнях
З радасцю і горам,
Надзеяй, праўдай, дабрынёй;
З усім, чым я жыву,
Чаго жадаю
І што з Радзімай сэрцам адкрываю...
Баюся толькі
Не згубіць бы мне таго
Што ўжо знайшоў,
Душой прыняў
І назаўжды сваім прызнаў.

* * *

Ўсе дарогі ў некуды ідуць...
Многія з іх можна абмінуць.
Толькі тыя нельга абысці,
Што крыжуюцца ў тваім жыцці,
Што праз сэрца тваё йдуць
І твой лёс з сабой вядуць...

## ДАРОГА

*Міхасю Лазаруку*

Дарог на свеце гэтак многа,
Ўсіх не аб'ехаць, не прайсці...
У кожнага свая дарога,
Адзіны шлях свой у жыцці.

І гэту праўду пазнаць я змог,
Йдучы ад роднага парога:
Найдаўжэйшая з усіх дарог
Дарога да сябе самога.

Яна — да ўсіх дарог дарога,
Да ўсіх шляхоў — адзіны шлях
Да любага і дарагога,
Адкрытага людзьмі ў вяках.

Яна — да сонца і да Бога,
Да светлай праўды і дабра,
І да нябеснага й зямнога,
Што ты ў жыцці сваім абраў.

* * *

Уважна слухаю душу сваю,
Яе мажоры і міноры.
Ў яе парывах радасць пазнаю,
Трывогі, горыч і дакоры.

О, колькі зведала яна пуцін
На стомленых дарогах веку!
У цемені азмрочаных часін
Свяціла шчыра чалавеку.

Народную свабоду сцерагла
І годнасць з верай бараніла;
Служыла праўдзе да відна,
Агню ніколі не гасіла.

* * *

Юнацтва незабыўныя гады,
Вяснянкі мараў, іх напевы...
І свет такі надзіва малады,
І светлай радасці засевы!

І ўсё, як самы ранні першацвет..,
Даўно сплыло, адкрасавала...
Ды толькі страчанага доўгі след
Застаўся ў памяці трывала.

Шкада... Вясны жыцця больш не вярнуць,
Пагасла ўжо яго світанне...
І ўсё ж, як і раней, сады цвітуць
І ззяе залатое ранне.

* * *

Памяці далёкія ўспаміны...
І святло, і ночы крыўдны змрок..
Пралyглі віхураў каляіны
Мне на сэрцы ўздоўж і ўпапярок.

Але ёсць у памяці й такое,
Што хацеў бы зноў я узнавіць,
Захаваць, як зерне залатое,
Як Радзіму, помніць і любіць.

* * *

Мінулага не абмінуць,
Не выкрасліць з гадамі...
Яго сляды ў душы жывуць
Са стратамі й дарамі.

Яго святло і яго цень
Зноў ладзяць круг свой новы.
І кожны мной пражыты дзень
З зацененай абновай.

Ад лёсу нельга уцячы
І не знайсці ратунку.
За ўсё даводзіцца плаціць
Па вечнаму рахунку.

Цяжар гадоў мяне гняце
І ў гэты час вясновы...
І ўсё ж, як і раней, цвіце
Мой васілёк жытнёвы.

* * *

Жыццё людское так імгненна,
Не ўгледзіш — як і прабяжыць...
І ўсё ж жывеш ты недарэмна,
І трэба так яго пражыць,
Каб быць заўжды патрэбным людзям,
Душой ніколі не старэць
І ў стыні дзён, у золкі студзень
Людское сэрца абагрэць.
Зазнаць цану і шчасця й гора,
Таго, што радуе й баліць;
І ўсе даверы і дакоры
З любоўю разам падзяліць.

* * *

Ўсё ў душы яшчэ асвечана
Пяшчотнасцю вясны,
Ды толькі цені вечара
Трывожаць мае сны.

І звонкі голас раніцы —
Духмянай, маладой —
Душы маёй абранніцы —
Прыцішаны тугой.

І ўсё ж не гасне, зорыцца
Вячэрняя пара...
І сніцца мне, і мроіцца
Світальная зара.

* * *

На свеце я не адзінокі,
Са мною гора і туга...
Прастор жыцця такі шырокі,
Кругом і скрозь адна смуга.

На ўсіх дарогах вісне смутак,
Ў тумане неба і зямля...
Знайдзі ты хоць адзін закутак,
Дзе б ні тужыў з табою я.

Але што гэта? Праўда веку?
Ці можа сон? Нібыта ў сне,
Дару я радасць чалавеку
І пакланяюся вясне.

* * *

Не скарджуся, не наракаю
На свой я чалавечы лёс.
Без гора радасць не страчаю
І ў горы абыходжуся без слёз.

Багацця не прашу. Не трэба,
Апроч таго, што не вярнуць...
Ўвесь сэнс жыцця ў адной патрэбе,
Ўсе дарогі да яе вядуць:

Знайсці сябе, сваё прызванне,
Самім сабой заўсёды быць,
І ўсё аддаць, усё дазвання
Дабру — і праўды не забыць.

* * *

Ёсць жа песня яшчэ не спетая,
У вопратку дабра адзетая,
Вясеннім сонцам абагрэтая,
Нікім ніколі не сустрэтая, —
Надзея светлая мая.
Яе — світальную вяснянку,
Душы свабоднай паланянку —
Ужо даўно шукаю я
На ўсіх шляхах-дарогах веку,
Дзе шчасце свеціць чалавеку,
Дзе мудрасць з вечнасцю жыве,
Дзе сэрца верыць і заве.

## ПРОБЛІСК НАДЗЕІ

І пробліск надзеі...Няўжо гэта ты?
І знікнуў твой след, як прамень залаты,
Ды зноў засвяціўся чаканнем душы,
Маленькай іскрынкай яе ўзварушыў
І згас, нібы свечка, і зноў засвяціў,
І сэрца надзеяй маё ўскаласіў...
І хораша стала, і горнасць сплыла,
І сонца заззяла, і знікла імгла.

* * *

Ўглядаюся, бы ў люстра, ў свае Я
І Мы прысутнасць зяўважаю.
Дзе ззяе, свеціцца душа мая,
Людскую радасць адкрываю.

Гарнуся сваім сэрцам да яе,
Як родную, сваю прымаю.
З яе святлом іду я да сябе,
Сваё шукаю, спасцігаю.

* * *

Гатоў аддаць я ўсё, што маю,
Што з радасцю заўсёды адкрываю,
За сонечнасць сардэчнай цеплыні,
За дольку міласэрнай дабрыні,
За ветлівасць, спагадлівасць людскую,
За мілую усмешку веснавую,
Лагодную, ласкава-дарагую;
За тое, што душа мая згадае,
Як роднае, бацькоўскае прымае,
За ўсё на свеце, што цаны не мае,
Спрадвеку чалавека узвышае,
Яго на шчасце бласлаўляе.

## ЗАМОВА

Яна — душы маёй замова,
Мая фантазія, мой сон,
Маё загадкавае слова,
Мая свабода, мой палон,
Мая радасць і мучэнне,
Журба, спагаднiца-любоў,
Маёй веры вывярэнне
На ўзмежжы зрушаных гадоў;
Мая споведзь і гаданне,
Вястунка дзіўная мая,
Крылатай мары парыванне,
Маё маленне, маё «я».

* * *

Што ў душы маёй ўзышло
І прыгожа расцвіло,
Так раптоўна й адышло,
Як святло ў час змяркання,
Як захмаранае ззянне,
Як імгненнае бліскание
Самлелай зоркі на світанні,
Што агняцветы пакідае
І назаўжды з вачэй знікае.

# РОЗДУМ

Якім бы збедненым і сумным,
Бясколерным і нудным,
Дакучлівым, самотным,
Бязрадасным, журботным
Было б жыццё у будні, святы,
Ў застоллі бедным і багатым,
Каб усё, што ёсць на свеце,
Цвіло адным і тым жа цветам,
Ў адным аднолькавым убранні
Заўсёды вечарам і ў ранні.
Чым мог бы я тады здзівіцца?
Якой красою захапіцца?
Усходам сонца залацістым,
Ці бэзам ранішнім квяцістым,
Ці небам зорнага блакіту,
Ці ружай-кветкай пад ракітай?
З якой бы Музай змог здружыцца,
Якой Багіні пакланіцца,
Яе душою асвяціцца?
Каго абраць?
Каму маліцца?

* * *

— Іскрынка радасці, ты ў сэрца мне запала.
О, як цябе мне неставала!
Як сонца, засвяцілася душа мая,
Калі адчуў тваю пяшчотнасць я.
Якое поле цябе ўзгадавала?
Чаму так запазнілася, прыстала?
— Мне доўга волі не хапала,
Я з гора з болем прарастала.

* * *

Рашыў я радасць пасяліць у хаце,
А перад горам дзверы зачыніў.
І думаў, што знайшоў, нарэшце, шчасце,
Якога я ніколі і не сніў.
А гора праз ўсе шчыліны пралезла
І зноўку, як назло, засела ў ёй...
І жыве сабе ў роскашы пампезна,
Як добры, самы даўні сябра мой.
І што параіце рабіць? Як мне быць?
Хіба магу я з горам вечна жыць?..

* * *

Я сам засяваў сваё поле,
Сеяў зерне надзеі і веры,
Падымаў цаліну, векавыя аблогі,
Бараніў іх ад спёкі,
Марознае стыні,
Вырываў пустацвет, пустазелле,
Гадаваў, пеставаў свае ўсходы,
Ўсходы маёй любові,
Вясны-маладосці,
Яснай і хмарнай,
Спавітай святлом і смугою;
Пасевы майго неспакойна-трывожнага лёсу,
Апаленага агнём навальніц;
Поле маёй заўтрашняй радасці.

* * *

Да мяне прыходзіць адзіноцва,
Аддае свае паслугі мне.
А паслуг у адзіноцтва мноства:
Ні адна мяне не праміне.

Абяцае мне сваю прыязнасць,
Хоча шчыра дружбаваць са мной,
Выстаўляе ўсю сваю прывабнасць,
Як бы напаказ перада мной.

Патрабуе ад мяне пакоры,
Хоча ласкай паланіць мяне.
Не прымаю ўсе яго дакоры,
А яно ў любві клянецца мне.

Як мне ўхіліцца ад спакусы,
Што рыхтуе мне мой дабрадзей,
Як душы суладнасць не парушыць,
Не згубіць мне сцежку да людзей?

* * *

Як прайсці мне праз пакуты,
Праз маркотных думак золь?
Дзе знайсці такія путы,
Каб скаваць душэўны боль?

Дзе пазычыць тую сілу,
Каб яго перамагла,
Каб бяду маю скасіла,
Што так сэрца аблягла?

Можа з воляй аб'яднацца,
З ёй заўсёды разам быць?
Ад яе хачу дазнацца,
Як бяду мне пераждаць.

Хіба шчасце мне паклікаць,
Хіба радасць мне пазваць,
І у згодзе іх вялікай
З імі разам сябраваць?

* * *

Калі лютуюць сцюжы злосці
І холад неспагаднасці імгліць,
І радасці сардэчнай помсціць, —
Тады мне горна, і душа баліць.

Тады я скруху ад сябе ганю,
Хачу зусім расстацца з ёю.
Баюся, каб не пагасіць агню,
Астыць, не спахмурнець душою.

Тады хочацца з людзьмі пабыць,
Да іх цяпла душа імкнецца.
І з кожным я гатоў усё дзяліць, —
На што сэрца адгукнецца.

Хачу ісці тады я да дзяцей,
У свет зазыўны іх чароўнай казкі,
І быць заўсёды як мага часцей,
Дзе свеціцца дабро дзіцячай ласкі.

І дзе цяпер яшчэ жыве са мной
Майго маленства дарагая сцежка,
Дзе шчодрасцю дзеліцца сваёй
Шчаслівая дзіцячая усмешка.

* * *

Хачу з табой я падзяліцца,
Усім, што маю, чым багаты.
Найперш ты можаш надзівіцца
Прыгожай ружай каля хаты.

Вазьмі ключы ад маладосці,
Лічы цяпер іх не чужымі.
І будзь заўсёды маім госцем
З усімі марамі сваімі.

Усё, што так мяне трывожыць,
Спакою не дае і ў сне,
Ты можаш атрымаць, памножыць,
Нічога не пакінуць мне.

Вазьмі мой грэх і пакаянне,
З любоўю аддаю я іх табе.
Бяры, што ёсць,усё дазвання
У радасці, і ў смутку, і ў жальбе.

Лічы сваім усё багацце,
Здабытае і мной і да мяне.
Ды толькі залацінку шчасця
Усё ж пакінь на памяць мне.

* * *

На хмарным небе дзе-нідзе
Усплёскі сонечных праменняў...
Хто ведае, куды вядзе
Сцяжынка светлых азарэнняў?

Які чакае яе лёс,
Калі і дзе пакіне ўсходы?
Прастор зямны асвеціць скрозь
Ці згасне недзе назаўсёды?

Ці мо ў душы пакіне след
Надзеі, радасці, спагады,
Заззяе шчодры сонцацвет,
Якому людзі будуць рады?

* * *

Калі гляджу я на гэтыя кветкі,
Што хіляцца пяшчотна да мяне,
Калі бачу ясныя вочы людзей,
Што свецяцца спагадна дабрынёй,
Душа мая поўніцца святлом радасці.
Яна ўбірае суладны покліч-спеў
Святочнасці, бясхмарнасці жыцця.
І ўсё ж нейкі незнаёмы голас
Даверліва шэпча і шэпча мне:
«Пабач, паглядзі...А што там?»
І я чую: там нехта плача.

* * *

Суладны спеў жыцця...
Праз боль, пакуты
праменіцца тваё святло.
Яно ва ўсім,
дзе сонечна,
дзе ветразі свабоды
лунаюць на зямлі;
дзе ў кожнай кропельцы быцця
жыве твая краса,
і лад, і згода,
дзе свеціцца надзея...
Шчаслівая часіна...
Хацеў бы я з табою быць,
душой амаладзіцца...
Ды толькі
неба хмарыцца
і халаднее сонца.

* * *

Гадзіннік мой — дарунак дарагі
ад бацькі й маці...
Куды ні йду,
бяру яго з сабою
і час старанна
ім я адлічаю.
Вядзе адлік ён
кожнае хвіліны
дабра і зла,
і радасці і гора,
майго й чужога.
І ў кожны момант,
ў кожнае імгненне
пазначыць ён
світальнасць цішыні,
і ўздыхі навальніц,
раскаты грому
і ў часе адаб'е іх,
і на душы маёй
свой след
пакіне.

## МІЛАСЦЬ СЛОВА

Ўсё вялікае й малое,
Майму сэрцу дарагое
Аддаю на міласць слову,
Маёй праўды багаслову.
Адной ёй я толькі веру,
Даражу яе даверам.
Міласэрнасць услаўляю,
Ўсёй душой яе прымаю.
Пакаяння дух вітаю,
Гнеў на літасць памяняю,
Ўсіх адступнікаў караю,
Іх грахі не замаляю.
Шчырасць з вернасцю ўхваляю,
Ўсё людское бласлаўляю.

7 Зак. 1192

## ДУМКА І СЛОВА

Ты, думка, разгараешся, лунаеш,
Каб свет сабою азарыць,
Ўсе перашкоды на шляху знімаеш,
Свабоднай прагнеш вечна быць.

Ты хочаш разарваць аковы слова,
Прайсці праз лабірынты моў,
Знайсці ва ўсім сваю аснову
І вольнаю раскрыцца зноў.

На ўсё ты хочаш даць свае адказы,
Дайсці заўсёды да высноў.
Але спрадвеку ты яшчэ ні разу
Не ўвасаблялася без слоў.

* * *

Не раз я з думкай-марай вандраваў
І з ёю ўсюды адкрываў:
Шляхі нязгаданых дарог,
Куды дайсці ніхто не змог;
Вяршыні недасяглых гор,
Сузор'і прамяністых зор,
Бясконцыя працягі свету...
Ды толькі не паспеў дагэтуль
Яшчэ ў адну нязведанасць сягнуць:
Ў бяздонне думкі-мары зазірнуць.

## ІМКНЕННЕ

О, колькі раз,
Змагаючы цяжар жыцця,
Скрозь перашкоды ўсе бяды і гора,
Гледзячы на сонца,
На светлы зорны шлях,
Імкнуўся я
Зайсці ў краіну мараў
І там будучыню ўзнесці,
Прайсціся па яе дарогах,
Яе святлом сагрэцца,
Адчуць душой дарункі шчасця,
Ўсеўладнасць долі й волі чалавечай...
Ды толькі, як назло, заўсёды
Ішлі у наступ цені
І засцілалі далягляд.

* * *

З чым зрадніць мне тваю мару?
З бліскам сонечным з-за хмары,
З той жар-птушкай сінякрылай,
Што свет казачны адкрыла;
З тымі радаснымі снамі,
Што ў маленстве разам з намі;
З тою дзіўнаю красою,
Азалочанай вясною;
З той нябеснай сінявою,
Што ў цябе над галавою;
З той зарніцай агнявою,
Што сустрэлася з табою
І цяпер — з маёй душою...

* * *

Праметэй агонь свой здабываў
Для ўсіх людзей,
Каб ён заўжды гарэў,
Свяціўся і ў душы тваёй,
Ўздымаў цябе на крылах духу
Праз перашкоды, навалы зла
На шляху да шчасця.
Ды толькі ключы ўсе да яго
Дасюль яшчэ не падзялілі
Паміж сабой
Нашчадкі Праметэя —
Багі зямныя.

* * *

Ёсць вечназорныя вяршыні
У свеце мар і прыгажосці.
І іх славутыя вышыні —
Нясуць нязведанае штосьці.

З даўных-даўна яго шукаюць,
Імкнуцца кожны раз знайсці
І перш душою адкрываюць,
Каб потым зведаць і ў жыцці.

# АДЛЕГЛАСЦІ

Адлегласці жыцця
Прасторы, часу,
Шляхоў-дарог, пуцін далёкіх,
Сцяжынак
Вузкіх, звілістых, цярністых,
Хто можа вымераць
Працягласць вашу
Да ісціны,
Дабра,
Людскога шчасця?..
І колькі суджана мне,
Чалавеку,
За свой кароткі век жыццёвы
Змагчы, адолець
Заслоны перашкод няўмольных,
Блізкіх і далёкіх,
На ўсіх нязведаных маршрутах свету.
І ўсе яны
Ў бясконцасці сваёй
Сышліся
Й пралеглі праз маё сэрца.

* * *

Не мінайце таго, чаго нельга мінуць,
Не губляйце таго, чаго нельга згубіць,
Не забудзьце таго, чаго нельга забыць,
Захавайце яго для таго, каб любіць.

* * *

Мы часта кажам: «Гэта ўсё»,
Усюды ставячы заўсёды межы.
Але, як вучыць нас жыццё,
Свет усяго — абсяг бязмежны:
Як той, што навакол цябе,
І твой, што носіш ты ў сабе,
Што ёсць і можа нарадзіцца...
Усё складаецца яшчэ з таго,
Чаму ў марах можна надзівіцца,
Што прагне ў слове адрадзіцца.

* * *

Чаму не верыш ты ў шчасце казкі,
Не бачыш яе цуду для сябе?
Яна заўжды з дзіцячай ласкай
Прыходзіць чараўніцай да цябе.

І радуе і грэе тваё сэрца,
Надзеяй, верай хоча акрыліць
І можаш ад цяпла яе сагрэцца,
Калі холадна табе, душа баліць.

* * *

Ў жыцці заўсёды ёсць прысутнасць казкі,
Жар-птушкі — вечнай чараўніцы, —
Імгненнасць азалочанага бляску
Іскрынак ранішняй зары-зарніцы.

Ці мала дзіўнага яшчэ жыццё прывеціць
З нязведанай пакуль нікім развязкай.
А можа й збудзецца калі на свеце
Прыгожая мана чароўнай казкі?

* * *

Ва ўсім ёсць лад жыцця, краса, гармонія,
Свая шматгучная сімфонія:
Ва ўзвівах ветру, яснай цішыні,
Бязмежнай зорнай вышыні,
У пошуме ляснога аксаміту,
Далёкага, бяскрайняга блакіту;
Ў адзінстве ўсіх прыродных з'яў,
У іхняй мнагастайнасці праяў
На ўсіх зямных шляхах і далях,
Напісаных самім жыццём скрыжалях,
Дзе неба сустракаецца з зямлёй,
Даруючы на шчасце сонца ёй;
Ў шматквецэнні ўсяго жывога,
Вялікага, высокага, святога,
Таго, што вечнае ў душы, ад Бога,
Заўжды мне, чалавеку, дарагога.

* * *

Ёсць штосьці вечна дарагое,
Заўжды світальна-веснавое
У барвах залатога сонца,
У квецені жыцця бясконцай,
Што свет сабою абнаўляе,
Паўсюдна новае вітае,
Красой сваёю услаўляе,
Душу для шчасця саграваае.

* * *

Калі красуе, цешыцца прырода,
Тады на сэрцы лад і згода,
Тады ў душы яе свячэнне
Гучыць, як песня адраджэння.

Прыслухайся... Яе гучанне
Пасля зімовага маўчання
Кранае вечнае, святое,
Табе заўсёды дарагое.

Як светлага жыцця даніну,
Запомні гэтую часіну,
Што ў сэрцы моцна адаб'ецца
І, як Радзіма, адзавецца.

* * *

З кім толькі я ні сустракаўся
На сонцапавароце да вясны,
З кім ні вёў размовы
У гэты час світальны
Ўрачыстасці жыцця.
Вітаў пяшчотнасць першых кветак,
Духмянасць траў,
Уважна слухаў жывыя галасы зямлі,
Ціхі гоман дрэў,
Спевы птушак пералётных,
Што вярталіся з чужыны на радзіму.
Спяшаюся ізноў да іх
На нівах родных,
Ў песнях, думках, марах, снах.
Хачу адчуць душой іх веснаванне.
Яшчэ раз падзяліцца з імі
Любасцю жыцця.


8 Зак. 1192

* * *

Іду дарогаю знаёмай,
З маленства добра мне вядомай.
Вакол зазелянелі нівы...
І лес — забаўнік гаманлівы —
Святкуе гэты час шчаслівы.
Навечна дар жыцця вясновы...
Яго суладныя абновы
Абняць чароўнае гатовы
У гэтым спеве шматгалосым,
Дзе сонца, распусціўшы косы,
І песціць ўсё, і ўсё мілуе,
Для шчасця й радасці гадуе.
Мне дараг гэты спеў шматгучны,
Такі напеўны, мілагучны,
Дзе ўсё жыве само сабою,
І ўсё са мной, з маёй душою.

* * *

Скінь з сябе прыгнёт штодзённасці,
Палон жыццёвай драбязы
І глянь хоць раз на гэта неба,
На светлы зорны далягляд,
На дзіўную красу яго прастораў,
Адчуй бясконцасць гэтай вышыні,
Адвечнасць музыкі нябесных сфер,
Усходаў і заходаў сонца.
Ці помніш? З пекла выйшаў Дантэ,
Каб глянуць зноў на белы свет.

* * *

Якая зелень на лугах, ў лясах,
Рунее поле веснавое.
Навокал свеціцца зямлі краса,
І ўсё такое маладое!

Вітаю гэты спеўны кліч жыцця,
І свеціцца ў душы заўсёды
Знаёмы сонечны прасцяг
Абноўленай, квітнеючай прыроды.

Іду ў палон да дзіўнае красы
Ўсіх гэтых ніў, палёў жытнёвых,
Бяру з сабой дары вясны,
Яе святочныя абновы.

І цягнецца дарога ў далячынь,
І ўсюды маладосці ўсходы...
Як хочацца ўсё гэта зберагчы,
Пакінуць людзям назаўсёды!

* * *

О, колькі залацінак-кветак
Штогод красуе на зямлі,
Калі з вясной зрадніцца лета
І сонцам абагрэюцца палі!

Якое шчасце ў гэта красаванне
Адчуць сябе у іх радні,
Прыняць душой іх веснаванне
У гэтыя аквечаныя дні.

Іду да іх — вястунь дзівосных, —
Духмяных, слынных, маладых...
І свецяцца ў душы былыя вёсны,
Юнацтва недапетыя гады.

* * *

Паглядзі ты на палеткі,
На зялёныя палі...
І вясной цвітуць, і ўлетку
Травы роднае зямлі.

Глянь на рэкі і крыніцы,
На высокія бары.
Колькі птушак тут гняздзіцца,
Колькі рознай дзетвары!

Ўстань жа рана на світанку
І на неба зазірні...
Бачыш — свеціцца заранка...
І агні, агні, агні

Палыхаюць і іскрацца,
Льюцца, льюцца з сінявы...
Што за дзіва ў небе, братцы,
Гэты лівень агнявы!

Ды ці мала прыгажосці,
Што з табою век жыве,
Запрашае ўсіх у госці,
Да сябе заве, заве...

* * *

Спынiся, паглядзi навокал,
На мора кветак-прыгажунь,
На беленькiя чашачкi лiлей,
Што выраслi тут, на балоце,
I так прывабна расцвiлi.
Якi дзiвосны дар прыроды:
Краса, народжаная з бруду,
Аздобiла, азалацiла
Увесь пакiнуты абшар балот.
I гэта цуда Багдановiч
Душой паэзii адкрыў
I нам навекi падарыў.

* * *

Адуванчык пабялеў, на ім пушынкі...
Дзьмухнеш — і разляціцца гэты пух,
Нічыёй не патрабуючы падтрымкі,
Каб так прайсці увесь свой круг.
І ўсё ж, хаця пушыначка й малая,
Мінаючы заўсёдны цыкл жыццёвы
У свой кароткі час вясновы,
Яна такую моц жыцця трымае,
Што ўсю зямлю старанна прыбірае,
Кілімам залацістым усцілае
І ўсю красу расквечанага мая
Са мной, з маёй душой яднае.

* * *

Кудысь знікаюць сны глыбокай ночы,
Такой маўклівай, сцішанай, сірочай,
І раніца — вястунка веснавая, —
Асветленая ясным сонцам мая,
Світанкам ўсё ад цемры вызваляе,
Ад сну ўсіх будзіць, радасна вітае.
І чуецца: салоўка напявае,
А з ім і зязюленька варожыць,
Гады адвеку лічыць ды ўсё множыць
І людзям шчасце-долечку прарочыць.
І, можа, мне сказаці штосьці хоча,
Але чамусьці ад мяне хавае,
Пакуль яшчэ маўчыць, не адкрывае.
За ўсім старанна варажбітка сочыць
І нешта, пэўна, й мне яна прарочыць.

* * *

Гляджу на прозалаць
асенняе красы,
журботнай развітальнай прыгажосці.
Якая моц жыцця!
Якія водсветы дзівосных фарбаў,
знікаючых у стоме ззяння
на ўзмежжы ценю і святла,
быцця і небыцця!

На сэрцы смутак і жальба
па рана страчаным агні
світальнае маўклівай пазалоты.
Чаму ж тады ён,
развітальны,
так моцна
саграе людскія сэрцы?

* * *

Асенні вечар замірае у знямозе,
Сціхае вецер, стомлены за дзень.
Абняты цішынёй, стаю я на дарозе,
Што ў свет маўклівых дум мяне вядзе.

Усё стаілася ў задумлівым чаканні,
Усё маўчыць і некуды плыве...
Прырода зажурылася перад змярканнем,
Яе журба ў душы маёй жыве.

Адзіны міг... І незваротная часіна,
Як подых ветру, праз мяне прайшла...
І раптам нейкая жыцця майго часціна
Няўлоўная кудысьці адышла.

* * *

Ці бачыш: з клёна падаюць лісты
І кветкі ў садзе ўжо завялі.
Прыгожы цвет іх загубіла стынь,
Калі сонца так яны чакалі.

Ўсё, што адцвіло, не зацвіце,
Пакуль вясна не закрасуе.
І ўсё ж, бывае, першацвет
Ў абдымках восені вяснуе.

## ТАПОЛЯ

Гляджу на адзінокую таполю,
Калі зямлю ўсцілае мокры снег.
Стаіць яна сіроткаю у полі
І журыцца, смуткуе па вясне.

Пажоўклыя лісты яе счарнелі,
Прамоклыя ў застоенай вадзе.
Ўсе сілы яе быццам анямелі,
Пакінулі гаротную ў бядзе.

Іду ізноў я да яе вясною
І бачу яе нібы ў цудным сне.
Таполя свеціцца ва ўсёй красе
Сваёю серабрыстай навізною.

Гляджу на жыццятворнае квітненне,
Абвітае пуховай белізной,
І сэрцам чую: ў гэтае імгненне
Яе краса жыве ў душы са мной.

* * *

З любоўю прыгажосць заручана
І шчасце з ёю не разлучана.
Яна ў суквецці думкі-слова,
У кожнай навізне, абнове,
Асветленай, душой апетай,
Надзеяй светлаю сагрэтай.
Ва ўсім цудоўным, незабытым,
Людзьмі адкрытым і здабытым,
І імі кожны раз згаданым,
Як радасць сэрца, захаваным.
Любоў не зносіць забыцця,
Любоў — заступніца жыцця.

* * *

Ўсе перавагі я любові аддаю...
Ў яе пяшчотах радасць пазнаю.
Хілюся да красы яе адвечнай,
Заўсёды юнай, дзіўнай, чалавечнай.
Ўсе дарункі з яе скарбніцы бяру
І на шчасце людзям ад сябе дару.
Там, дзе ў жыцці царуе Афрадзіта,
Ўсё поясам чароўнасці абвіта...
Там свецяцца дабром людскія вочы,
Там сонца праганяе цемру ночы.

* * *

Я хацеў бы, каб вочы свяціліся,
Каб шугала у іх святло,
Каб засёды у іх прамянілася
Чалавечай любві цяпло.

Каб душа да душы гарнулася,
Асвятляючы кожны дзень,
Каб ніколі зло не вярнулася,
Каб навечна знік яго цень.

Каб нішто любві не азмрочыла,
І яна жыла з дабрынёй...
Ўсё, што сэрца маё напрарочыла,
Засвяціла ў душы маёй.

* * *

Я суджу сябе самога,
І пара прысуд выносіць.
Не судзі сябе так строга,
Маё сэрца мяне просіць.

Не віні, што я кахала,
Што пакутамі плаціла,
Што з`табою гаравала,
Бедавала, галасіла.

Не судзі, што без пачыну
Я у снах тваіх блудзіла
І сустрэла там дзяўчыну,
Цябе шчасцем адарыла.

Колькі раз я на спатканне
Да яе з табой хадзіла!
Колькі раз на развітанне
Я заўжды цябе вадзіла!

Не адзін раз ад спакусы
Я цябе аберагала,
Без ніякага прымусу
Тваю годнасць ратавала.

Колькі раз я смуткавала,
Да цябе яе чакала...
Колькі я начэй не спала,
Ўсё каханне вартавала.

Зберагла я ўсё святое,
Ўсе мае табе наказы:
Непадсудна усё тое,
За што сэрца у адказе.

* * *

Ты бачыш: разгараецца агеньчык,
Такі маленькі, хілы, палахлівы,
Твайго кахання дарагі струменьчык,
Такі далёкі і такі мне мілы.
Ды з часам ён смялее і дужэе,
Ўсё больш і больш жвавее і мужнее.
Яго ты захавай, ў сабе насі,
Сваім холадам яго не пагасі.
І добра разгарэцца дай яму,
Жывому, шчыраму чуццю твайму.
Няхай яно гарыць і палымнее,
Няхай маё каханне абагрэе,
Душы маёй агонь твой не міне,
Гарыць пажарам палкім да мяне!

* * *

Чаму не пішаш ты? Як зразумець тваё
маўчанне?
Праходзяць дні...Не чутна голасу твайго...
Высока ўзнеслі мы пасад свайго кахання
І не падумалі, як захаваць яго.

* * *

Не засмуці мяне сваім маўчаннем,
Не аднімі, што падарыла ты.
Маёй вясны з тваёй вясной вянчанне
Абарані ад зімняй мерзлаты.

* * *

Дзе з табой я ні бываю,
Рай і пекла адкрываю;
І клянуся, і злуюся,
І красе тваёй дзіўлюся.

Ты — мой грэх і пакаянне,
Мой дакор і мілаванне,
Ты спакуса, ты і цнота,
Мая радасць і маркота.

* * *

Калі ты сумуеш — я твая сумота;
Калі ты гаруеш — я твая гаркота;
Калі ты бядуеш — я твая бядота;
Калі табе нудна — я твая нудота;
Калі ты хмурнееш — я твая хмурынка;
Калі ты заплачаш — я твая слязінка.
Ў адзін ланцуг даўно мы скуты
І разам церпім ад пакуты.

* * *

— Ты стала зноў чужой, пахаладзела,
Змяніўся нават голас твой.
Раней ты на мяне так не глядзела,
З такой халоднай нематой.

І як твайго пазбыцца адчужэння
Ніяк з сабой не парашу.
Якім агнём, якім святым гарэннем
Сагрэць цяпер тваю душу?

— Ты хочаш ведаць, дзе выратаванне?
Яго ў сабе сам носіш ты.
Найперш сагрэй агнём павінавання
Халодны лёд сваёй душы.

* * *

Як перад Богам я клянуся
У вернасці маёй табе,
Каторы раз ізноў дзіўлюся
Тваёй гарэзнай варажбе.

Гадаю, заклінаю ў скрусе,
Чакаю, голас падаю.
І зноў гадаю, зноў дзіўлюся,
Надзею трачу і малю.

Калі ж настане час спаткання,
Ці ўбачу тую я пару?
Пакуль жа цягнецца гаданне,
Ў агні чакання я гару.

* * *

У снах тваіх я заблудзіўся.
Праз ноч нічога не відаць.
У пошуку цябе — стаміўся...
Хто мог бы сілы мне дадаць?

Іду скрозь цемру — сам цямнею
Ад гэтай страшнай цемнаты.
І раптам дзіва: ўсё святлее
Ад мілай тваёй пекнаты.

* * *

Пры сустрэчы кожны раз з табой
Я раблюся нібы сам не свой.
Нешта дзіўнае творыцца са мной,
Нешта зорнае свеціцца ўва мне,
Нешта цуднае саграе мяне.
Ўвесь я напаўняюся сілай маладой,
Ўвесь я акрыляюся, мілая, табой.
Што дае мне крылы, каб узнёсся я?
Што на неба ўзносіць?
— Прыгажосць твая.

## ЗМЕСТ



## I

## II

## III

*Літаратурна-мастацкае выданне*

***Івашын Васіль***

**ПОКЛІЧ ПАМЯЦІ**

Вершы

Адказны за выпуск *Ю. Г. Хацкевіч*

Падпісана да друку 08.05.98. Фармат 70×90[1]/32. Папера афсетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 5,27. Тыраж 500 экз.
Заказ 1192.

ТАА «Харвест». Ліцэнзія ЛВ № 32 от 27.08.97.
220013, Мінск, вул. Я. Коласа, 35 — 305.

Надрукавана з гатовых дыяпазітываў заказчыка
ў друкарні выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.

